*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

№ 23(33) • 24—30 ЛІПЕНЯ 1991 г. • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

## Поступ тыдня

На палях рэспублікі шырыцца жніво. У пару, калі на хлебнай ніве краіны чакаецца значны недарод пшаніцы і адпаведна гэтаму павялічаныя закупкі яе за мяжой, узрастае значэнне жыта — традыцыйнай беларускай культуры. Як ні дзіўна, але і ў гэтых умовах чыноўнікі не зрабілі крок насустрач хлебаробу: прыёмныя пункты адпраўляюць машыны са звышпланавым збожжам назад у гаспадаркі.

Ці будзе Беларусь па-ранейшаму савецкай? Такое пытанне ўзнікла пры абмеркаванні новай Канстытуцыі рэспублікі. Пры гэтым прадстаўнікі ўсіх партый і рухаў сышліся на тым, што органы мясцовай улады трэба карэнным чынам мяняць: не працуюць яны цяпер, а толькі ўсё засядаюць... Адчувальныя перамены наспелі і ў арганізацыі сістэмы адукацыі, аховы здароўя, іншых сфер нашага жыцця. Усе яны будуць зафіксаваны ў праекце Канстытуцыі, які рыхтуецца да друку Канстытуцыйнай камісіяй беларускага парламента.

Узрастае цікавасць Еўрапарламента да Беларусі. Так, тут намечана абмеркаваць стан нацыянальных культур у нашай краіне і зрабіць гэта на прыкладзе Беларускай рэспублікі. Напярэдадні абмеркавання арганізуюцца выстаўкі беларускага мастацтва ў Страсбургу, Бруселі і Люксембургу, дзе праводзяцца пасяджэнні вышэйшага органа улады Еўропы. На выстаўках будуць прадстаўлены вырабы народных майстроў, творы сусветна вядомых дзеячаў культуры — Францішка Скарыны, Пятра Мсціслаўца і іншых. А сучасную тэматыку мяркуецца цесна звязаць з Чарнобылем. Гэта дапаможа прыцягнуць увагу замежжа да вялікай бяды нашага народа, чаго, дарэчы, дабіваецца і Вярхоўны Савет БССР у сваім звароце да Еўрапейскага парламента.

Ва ўрадзе рэспублікі абмеркаваны праект закона «Аб супрацьдзеянні манапалістычнай дзейнасці». Аб'явілі назву праекта і распачалі спрэчкі: ці патрэбны ён нам цяпер? У выніку прыйшлі да вываду: не патрэбны! Такі закон можа дзейнічаць толькі ва ўмовах рынку, калі ёсць канкурэнцыя, прадпрымальніцтва, бізнес. А сёння можна абысціся і тымі мерамі, якія выпрацуюць Дзяржэканомплан і Камітэт па дзяржмаёмасці БССР, што ім і даручана на пасяджэнні Прэзідыума Саўміна.

Амаль у палавіны абследаваных дзяцей з Гомельскай і Магілёўскай абласцей выяўлена затрымка разумовага і псіхічнага развіцця. Гэта азначае адно: набліжаецца праблема, параўнальная толькі са СНІДам. Атрыманыя вынікі нечаканыя нават для медыкаў. І хоць абследаванне праводзілася па ініцыятыве ўрада рэспублікі, па яго выніках не прымаюцца ніякія меры.

*Але!*

## БЕЛАРУСКІЯ ЗАДАЧКІ ЧАСОЎ ГАЛОСНАСЦІ



Апошнім часам Мінск наведваюць (загадкавая сіла прыцягнення!) пэўным чынам вядомыя ў Расіі асобы (і нават дэлегацыі), якія заўзята клапоцяцца пра беларусаў. Асабліва клапоцяцца, каб тыя з-за сваёй генетычна, відаць, абумоўленай непадрыхтаванасці да самастойнага мыслення не ўздумалі жыць сваім розумам самі па сабе. Мэта высакародная: бо загінуць жа, бедныя, у моры «агрэсіўнага, матэрыяльна-ашчаднага амерыканскага прагматызму, што заразіў усе развітыя капіталістычныя дзяржавы»! Так што лепей ужо наша хранічная недаразвітасць, затое без матэрыяльнага прагматызму. І вядома — без матэрыяльнага дастатку (няхай ужо ад яго наша кампартыйнае начальства пакутуе, яму не прывыкаць). Гэтак і прыгаварылі на выязным пасяджэнні Думы Славянскага сабора — арганізацыі, аказваецца, міжнароднай. Як паведаміў карэспандэнт БЕЛТА, гэныя думцы, вырашыўшы, у якім стане беларусам заставацца дзеля падтрымання асобай «славянской духовности», асудзілі заадно знешнепалітычны курс Савецкага ўрада. І тут жа, відаць, як альтэрнатыву яму ці што, з прадстаўнікоў «патриотических» суполак «Отечество», «Русь» і «Белая Россия» (во як у нас!) сфарміравалі кіруючыя органы «представительства Славянского собора в республике».

Пытанні:

1. Гэтыя «кіруючыя органы» — адказ на тое, што ў Маскве прэзідэнцкае крэсла РСФСР па волі рускага народа заняў Барыс Ельцын? І Мінск цяпер прымерваюць на ролю сталіцы новых «белых», якія 70 з лішкам гадоў называлі сябе «красными»?

2. «Представительство Славянского собора» — сінонім вядомага па Прыбалтыцы «Комитета национального спасения» (і тады зразумела, чаму генерал Усхопчык з ягоным спецыфічным вопытам замест Масквы перадыслацыраваны ў Брэст) ці нешта больш грандыёзнае?

3. Гэныя «представители патриотических обществ Белоруссии» лічаць тутэйшае насельніцтва за самастойны народ ці за паслухмяную масу і кантынгент для «белага» войска? А Беларусь для іх — дзяржава — член ААН (арганізацыі, якую яны прагнуць разваліць) ці стратэгічны плацдарм для іх мэт, ад якіх за вярсту патыхае бальшавіцкай імперскасцю, нават калі яе закамуфляваць пад нейкія асобныя ад астатніх народаў «агульнаславянскія» інтарэсы?

Хочаце выдаваць газету? Шукайце спонсара!.. *Стар. 2*

*Філалогія — дачка гуманізму* *Стар. 2—3*

*Перапалох на адукацыйнай ніве* *Стар. 3*

*Беларускае слова крочыць па планеце* *Стар. 4*

Шаноўныя чытачы! Дзеля таго, каб выявіць вашы адносіны да нашай газеты, скласці ўяўленне аб чытацкай аўдыторыі, перад якой мы выступаем, і ўмацаваць нашу ўзаемную сувязь, прапануем вашай увазе наступную анкету. Просім запоўніць яе і даслаць у рэдакцыю. Будзем удзячны вам за вашы адказы!

# АНКЕТА

### ЧЫТАЧОЎ «НАШАГА СЛОВА»

### І. РАСКАЖЫЦЕ ПРА СЯБЕ

Ваш узрост..............................гадоў

Пол: мужчынскі, жаночы ..........................................

Адукацыя: незакончаная сярэдняя; сярэдняя; сярэдняя спецыяльная; вышэйшая; незакончаная вышэйшая ..................................................

Прафесія, род заняткаў ..........................................

..................................................

Месца жыхарства ..........................................

..................................................

..................................................

..................................................

### ІІ. ВАША МЕРКАВАННЕ АБ ГАЗЕЦЕ

Што падабаецца і што не падабаецца..........................

..................................................

Падабаецца, што робіце кароткія матэрыялы ............

Не падабаецца ..........................................

Падабаецца, што многа выступае навукоўцаў ..........

Не падабаецца..........................................

Ці задавальняюць матэрыялы пра беларускую эміграцыю ..........................................

Пра што яшчэ хацелася б прачытаць у газеце ............

..................................................

 



# І няхай пачне «Наша слова»

У маі споўнілася 85 гадоў з дня заснавання ў Пецярбургу суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца». Яна выпускала патрэбныя для беларусаў кнігі, часопісы, газеты. І што асабліва цікава — яны друкаваліся не толькі кірыліцай, а і лацінкай. А некаторыя — адразу двума шрыфтамі. Мяркую, гэтую добрую справу маглі б прадоўжыць у наш час што-тыднёвікі «Літаратура і мастацтва» і абавязкова першым — «Наша слова».

Яўген МАКОЎСКІ,
г. п. Іўе.

Ад рэдакцыі. Дзякуй за напамін пра сапраўды важную для беларускага адраджэння падзею, якая адбылася 85 гадоў таму назад. У якасці адказу на прапанову друкаваць частку матэрыялаў у газеце лацінкай (на жаль, друкарня, дзе нас выпускаюць, такой магчымасці не мае) прапануем чытачам фотакопію ліста, дасланага ў рэдакцыю. Магчыма, хто пажадае выказаць сваё меркаванне. Будзем удзячны.

Dobry dzień!
Ščyra dziakuj za haziety, jakija ja atrymaŭ. Pačynajcie pisać łacinkaj i prablem z biełaruskaj movaj budzie značna mieńš. Imknucca treba u Jeŭropu, a nie u Aziju, z jakoj nas niama što jadnać. Łacinka heta kultura i adradžeńnie.

◈ ◈ ◈

# ГАЛОСНАСЦЬ ДОРАГА КАШТУЕ

**Паважаная рэдакцыя «Нашага слова»!**

Вельмі карысным было б для Баранавіцкага аддзялення ТБМ імя Ф. Скарыны, для іншых рад асвятліць на вашых старонках эканоміку выпуску газет як да 1000 паасобнікаў, так і зарэгістраваных.

Мы ў Баранавіцкім аддзяленні ТБМ, улічыўшы, што гарадская газета зусім мала друкуе матэрыялаў на беларускай мове, аднабакова асвятляе многія з'явы жыцця беларусаў, вырашылі выдаваць сваю газету «Баранавіцкае слова».

Першы нумар у 999 паасобнікаў, з якіх 30 забрала друкарня на рассылку, выпусцілі ў пачатку мая. Прадавалі ў кіёсках па 40 капеек плюс 5% прэзідэнцкага падатку. За друк заплацілі друкарні 259 р. 26 к. (246 р. 92 к. за паслугі друкарні ды 12 р. 34 к. зноў жа прэзідэнцкага падатку). Дадаўшы сюды аплату мальнітсцы і кіёскам за распаўсюджванне, улічваючы кошт паперы, аддзяленне атрымала каля 10% прыбытку. Мы ўсе былі рады.

Пачалі рабіць другі нумар. Калі дырэктар друкарні, прачытаўшы Пастанову Саўміна БССР № 56, больш-менш станоўча аднёсся да нашых памкненняў, то галоўны інжынер перашкаджаў («у вас друкуецца БНФ») метадамі, якія з гранню прыстойнасці. Але мы не звярталі ўвагі на такія дробязі, і за 20 дзён надрукавалі другі нумар.

Самае катастрафічнае, што ён нам ужо каштаваў 660 р. 62 к. (629 р. 16 к. за паслугі друкарні ды 31 р. 46 к. прэзідэнцкага падатку). Гэта значыць, калі мы ўсё распаўсюдзім, то ўсё роўна будзем мець каля 350 р. убытку.

Пры такім раскладзе мы не зможам выпускаць газету, а справа ж наша вельмі карысная. Самім разабрацца ў эканоміцы нам цяжка — не спецыялісты, ды і спроба гэта варожа ўспрымаецца ў друкарні. Вельмі добра было б, каб спецыяліст на старонках вашай газеты выклаў эканоміку выдання газет, а таксама параіў, як зменшыць кошт паслуг друкарні.

Вось што я выведаў сам: расцэнкі бяруцца па прэйскуранту 57-01-53. Набор каштуе 166 р. (але карэктар быў наш). Друк 1000 экземпляраў — 2 р. 80 к. Формы палос 5 р $\times$ 4 = 20 р. Друк з гатовых арыгіналаў макетаў (?) 18 р.$\times$4=72 р. Увесь кошт — 261 р.

Не зразумела з каэфіцыентамі, якія ўведзены пры друкаванні другога нумара — на матэрыялы 1,3 і зарплату 1,85. Усе перамнажаюць і атрымліваюць 2,4. І агульны кошт атрымліваецца 261 р. $\times$ 2,4 = 626 р. Не зразумеў — каэфіцыенты толькі да матэрыялаў і зарплаты ці да ўсяго кошту па прэйскуранту?

І ці ёсць якія льготы на выпуск беларускіх і малатыражных газет? Якая магчымасць аб'яднаць намаганні, каб рабіць разам хоць набор газет? Кошт гэтых работ вельмі завышаны ў друкарні.— за дзень выпрацоўка аднаго чалавека 400 рублёў без прымянення дарагога абсталявання.

І яшчэ — рытарычнае пытанне: навошта нашы друкарні выпускаюць розныя расійскія выданні, а беларусы павінны плаціць грошы за гэту непатрэбную, разбуральную для нашай культуры і мовы работу?

З павагай
Аркадзь БЛІНКОЎСКІ.

◈ ◈ ◈

З пісьмом газетчыка-банкрута мы звярнуліся ў эканамічнае ўпраўленне Дзяржкамдруку БССР. Соф'я Анатольеўна Сліжэўская, супрацоўніца гэтага ўпраўлення, прачытаўшы пісьмо, адразу дала вычарпальны адказ:

— Што казаць пра «Баранавіцкае слова», калі нават раённыя газеты прыносяць страты. У самыя спрыяльныя гады ўсе, у каго тыраж да васьмі тысяч, сядзелі на датацыі...

А тое, што першы нумар даў прыбытак баранавіцкім выдаўцам, тлумачыцца таксама проста. У першым квартале ўсе друкарні працавалі яшчэ на мінулагодніх запасах сыравіны. Як і ўся прамысловасць. Тады яшчэ і тона паперы каштавала 250—280 рублёў, і на іншыя матэрыялы і паслугі прымяняліся танныя расцэнкі. А цяпер жа цэны вар'яцкія! Ды хутка яшчэ ўзрастуць. Так што, як кажуць, вышэй сябе не падскочыш.

Соф'я Анатольеўна паказала загад № 28 па Дзяржкамдруку БССР. У ім сказана: «У сувязі з пераходам эканомікі Беларускай ССР да рыначных адносін і з улікам павышэння аптовых цэн на паліграфічныя матэрыялы загадваю:

1. Адмяніць з 1.01.1991 года дзеянне на тэрыторыі Беларускай ССР прэйскуранта № 57-01-53 «Аптовыя цэны на паліграфічныя работы»...

2. Разлікі з заказчыкамі на паліграфічныя работы паліграфічныя прадпрыемствы робяць па дагаворных цэнах...»

А ўведзены гэтыя дагаворныя цэны з 1 сакавіка г. г. Адсюль і павышэнне страт пры друкаванні другога нумара «Баранавіцкага слова». У прыкладанні да загада пазначана, што пры вызначэнні дагаворных цэн каэфіцыенты з прэйскуранта «могуць быць выкарыстаны толькі ў якасці рэкамендацый». Асноўнае, з чаго павінны зыходзіць цяпер друкарні, — гэта рэнтабельнасць вытворчасці, атрыманне прыбытку, зніжэнне сабекошту прадукцыі. А ў кожнай друкарні — свае эканамічныя паказчыкі.

Зразумела, ёсць тут і пэўныя льготы для беларускамоўных газет: яны вызваляюцца ад падатку на прыбытак, як сказала Соф'я Анатольеўна. Але гэта толькі адзін з фактараў у складанай цэнавай стратэгіі. У цэлым сёння выданні нават з мільённымі тыражамі церпяць страты. Так што, як бачым, галоснасць пакуль каштуе нам дорага.

Адзінае, на што застаецца разлічваць сёння выдаўцам беларускага друкаванага слова, — гэта падтрымка спонсараў, сяброў роднай мовы. Сярод іх могуць быць і прыватныя асобы, і працоўныя калектывы прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, і беларускія выдавецтвы, друкарні, заснавальнікі і выдаўцы газет і часопісаў. А яшчэ, зразумела, Асацыяцыя беларускіх выданняў, створаная нядаўна. Пра яе дзейнасць расказвалася ў «Нашым слове», № 21.

Хочацца спадзявацца, што не адны голыя эканамічныя разлікі будуць вызначаць на ўмовах перабудовы становішча друкаванага беларускага слова.

А. СІЛЯНКОЎ.



***Зусім нядаўна член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна Алег Антонавіч Лойка стаў дэканам філфака. Наш карэспандэнт сустрэўся з ім і задаў яму некалькі пытанняў.***

# КАГО І ДЛЯ ЧАГО

**Шаноўны Алег Антонавіч, напачатку, хоць і са спазненнем, дазвольце павіншаваць Вас з Вашым 60-годдзем, Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Якуба Коласа і новай пасадай. І адразу пытанне: як сябе пачуваеце, стаўшы дэканам філфака?**

— За ўсе віншаванні, дарагі Віктар, традыцыйна шчыры дзякуй, а пра пачуванні дэканскія скажу адным словам: клопатныя.

**— Не цэнтрам нацыянальнай культуры, а «інстытутам нявест» называюць філфак у народзе. А Вы як лічыце?**

— Я сваё меркаванні выказваў ужо і ў друку і з трыбунаў, гаворачы не тое што пра інстытут, але нават і пра «пансіянат абдыпломленых нявестаў», «праходны двор» усесаюзнага маштабу. Якраз колішні, нібыта бацькоўскі, клопат пра дзяўчат і іх замужжа пазбавіў філалагічны факультэт нацыянальнага профілю. Да 1948 года існаваў проста філалагічны факультэт. З 1948 года яго падзялілі на аддзяленні: рускае і беларускае. Прэстыжным, як вы разумееце, стала рускае. «Нявестам» з гэтага аддзялення былі дадзены дзве спецыяльнасці — у дадатак да асноўнай яшчэ і права выкладання беларускай мовы і літаратуры.

Мы цяпер вяртаемся да таго, каб у атмасферы рынку, які нараджаецца, не адну, а дзве і больш спецыялізацый меў кожны наш выпускнік. Але тады, пачынаючы з канца 40-х гадоў, дзяленне факультэта наогул павяло да яго няўмольнай русіфікацыі. Факультэт пачаў страчваць пазіцыі фарпоста падрыхтоўкі філолагаў-беларусістаў. Беларускае аддзяленне трапіла на рубяжы астаткавай увагі альбо проста безувагі.

**— Ці не ператвараўся за гады «застою» філфак у педфак? І ці не забыўся на філфаку пра святую мэту выхавання нацыянальнай інтэлігенцыі, замяніўшы яе падрыхтоўкай кадраў для школ?**

— Усё пачалося яшчэ задоўга да гадоў «застою». Не пра выхаванне нацыянальнай інтэлігенцыі дбалі БДУ і ўсе ВНУ рэспублікі пры сталінщыне, у дзесяцігоддзе Хрушчова і ў той жа застойны час. Але давайце ўдакладнім: падрыхтоўка кадраў для школ — гэта і падрыхтоўка інтэлігенцыі, што з'яўляецца і святой мэтай філфака.

Сапраўды, ператварэнне філфака ў педфак адбывалася. Ішло спрашчэнства універсітэцкага навучання, у пэўным сэнсе — прафанацыя. Дасюль у БДУ не вывучаюцца украінская, літоўская, латышская мовы, а гэта ж мовы нашых суседзяў. Не вывучаецца таксама беларусістыка нямецкая, англійская, амерыканская і іншыя. У той час як у свеце беларусістыка цяпер — адна з актуальных і прывабных праблем для вывучэння. А з класічных моў вывучаем толькі лаціну. І не вывучаем старагрэчаскай, стараяўрэйскай. Не маем сваіх арабістаў, хоць існуюць колькі стагоддзяў «Кітабы» — рэлігійныя кнігі, напісаныя на беларускай мове. Я не кажу ўжо, што мы не рыхтуем ні карэктараў, ні рэдактараў — прафесіяналаў так званай прыкладной філалогіі. Усё гэта дыктуе неабходнасць увядзення шматпрофільнай спецыялізацыі, да чаго зараз факультэт і рыхтуецца.

Не проста адкрыць новыя кафедры — класічных моў, культуры Беларусі, славянскай філалогіі, а яшчэ цяжэй падрыхтаваць для іх свае кадры.

Але ўсё ж найцяжэй рыхтаваць уласна філолага. Найперш па дзвюх прычынах: таму што сярэдняя школа не дае філалагічнай падрыхтоўкі — менавіта валодання адной з замежных і адной з класічных моў, як было некалі ў гімназіях і ліцэях. Па-другое, і мы, універсітэт, не можам даць студэнту веды па другой замежнай мове. Наогул так склалася, што ў нас не хапае часу нават на грунтоўнае вывучэнне роднай мовы і літаратуры.

**— Студэнты перагружаны яшчэ нейкімі дысцыплінамі?**

— Часу не хапае не студэнту, а выкладчыку. І тут я хачу звярнуць увагу на такую рэч: чаму ў інстытуце замежных моў на падрыхтоўку спецыяліста на аднаго выкладчыка прыпадае ў паўтара раза менш студэнтаў, чым ва універсітэце на філфаку? Мову вы-

# *Беларускае адраджэнне ў святле друку*

**«Захаваць старажытную Тураўшчыну» — так назвалі свой адкрыты ліст у рэдакцыю газеты «Навіны Беларускай Акадэміі» пісьменнік В. А. Казько, вучоныя Л. Д. Побаль, Д. С. Голад, М. М. Пікулік, А. А. Крывіцкі, М. А. Саскевіч, а таксама партыйныя і савецкія работнікі У. С. Герасімаў, М. Р. Шруб, старшыня калгаса М. М. Арцюшка. У пісьме выказваецца прапанова ўзяць Тураўшчыну і прылеглую да яе тэрыторыю пад ахову дзяржавы і надаць гэтаму цэнтральнаму гістарычнаму і прыроднаму кутку Палесся статус Нацыянальнага парку.**

**Былы цэнтр Вялікага Княства Літоўскага аказаўся з гадамі ў баку ад асноўных падзей, што адбываліся на беларускай зямлі, ператварыўся сёння ў маленькі гарадскі пасёлак з трыма тысячамі насельніцтва. Але затое тут менш за ўсё парушана прыроднае асяроддзе і не знішчана схаваная ў зямлі памяць аб мінулым — археалагічныя помнікі. Захавалася тут і традыцыйная мясцовая культура — абрады, песні, дыялект, аб вялікім багацці якога сведчыць пяцітомны «Тураўскі слоўнік», выпушчаны нядаўна. У гэтых мясцінах, бадай, як нідзе ў Беларусі, захаваўся дух і водар дахрысціянскага і раннехрысціянскага часу, карані нашай нацыянальнасці. Таму так важна паклапаціцца аб ахове ад разбурэння гэтага гістарычнага кутка беларускай зямлі.**



 

*Актуальнае інтэрв'ю*

# РЫХТУЕ ФІЛФАК?

вучаюць і тут і там? Але ў інстытуце замежных моў разумеюць, што студэнт мову не вывучыць, калі яго будуць вучыць паточна, калі не 4—5, а ўдвая больш студэнтаў прыпадзе на аднаго выкладчыка. І ў выніку выпускнікі інстытута замежных моў замежную мову ведаюць, а выпускнікі філфака — не. Як не ведаюць і выпускнікі сярэдніх школ. Гэта ж закон: філолаг ці ў інстытуце замежных моў, ці ва універсітэце — толькі пры адпаведнай забяспечанасці гадзінамі і выкладчыкамі можа ведаць мовы, літаратуры. У нас жа са сталінскіх часоў павялося вывучаць замежныя мовы — у школах і універсітэце — для адводу вачэй. Навошта бюракрату мовы? Хопіць на ўсіх адной.

**— І тым не менш не аднойчы давялося чуць: студэнты так перагружаны заняткамі, што няма калі прачытаць новы мастацкі твор, наведаць тэатр.**

— Я гэта ведаю.

**— Калі зазірнуць у навучальны план за 1989 год, то ў вочы адразу кідаецца: на філфаку шмат увагі аддавалася гісторыі КПСС (340 гадзін, з іх 70 лекцый, 70 семінараў, два іспыты, адзін залік), марксісцка-ленінскай філасофіі (адпаведна 280, 56, 60, два іспыты), палітэканоміі (280, 56, 60, залік і іспыт), навуковаму камунізму (160, 34, 34, залік і іспыт). А вайсковай падрыхтоўцы дык наогул 600 гадзін. І само па сабе ўзнікае пытанне: каго і для чаго рыхтуе філфак? Хто павінен клапаціцца пра выхаванне беларускай інтэлігенцыі?**

— Вашыя дадзеныя, аднак, састарэлі. Што так было — было, але вось вам паказчыкі новага плана на беларускім аддзяленні. З так званых грамадскіх навук на першым курсе ідзе гісторыя палітычных вучэнняў. Лекцый 56 гадзін, практычных — 50. На другім курсе — філасофія — 66 лекцыйных гадзін, 40 практычных. На другім курсе — філасофія — 66 лекцыйных гадзін, 40 практычных. На трэцім — палітэканомія — 30 лекцыйных гадзін, 30 практычных заняткаў. Студэнты чацвёртага курса будуць слухаць гісторыю філасофіі (40 лекцыйных гадзін), пятага — паліталогію (па 30 гадзін лекцыйных і практычных у першым семестры). Так што непатрэбнай, лішняй перагрузкі студэнта грамадскімі навукамі цяпер не будзе — гэта відаць па лічбах адпушчаных на іх гадзін. Такім чынам, «каго і для чаго рыхтуе філфак?»... Гэта пытанне вунь як карцела і карціць «усяму народу». І менавіта памятаючы пра яго, паглыбляючы прафесіяналізм філолага-беларусіста, у новую сетку дысцыплін па спецыяльнасці мы ўвялі шырокі — паралельна гісторыі літаратуры і вывучэнню роднай мовы — паток навук культуралагічных. Першы курс будзе слухаць не толькі ўводзіны ў літаратуразнаўства і мовазнаўства, але і ўводзіны ў беларусазнаўства. Вусную народную творчасць працягне асобны курс нацыянальнай міфалогіі, а тады этнаграфіі, краязнаўства, гісторыі культуры Беларусі. На пятым курсе будуць чытаць новыя для нашага філфака прадметы: гісторыю сусветнай культуры, а таксама — пакуль спецкурсамі — філасофію літаратуры і лінгвістыкі. Акрамя таго, з наступнага года ўводзіцца самая шырокая сетка спецкурсаў да вядучых літаратурных і моўных дысцыплін дзеля спецыялізацыі студэнта ўжо на філфаку ў больш вузкіх праблемах гісторыі літаратуры, мовы, яе гісторыі, стылістыкі і г. д. Больш чым удвая павялічаны ў нас гадзіны на вывучэнне гісторыі Беларусі.

**— А ваенная кафедра?**

— Што ж, ваенная падрыхтоўка пакуль што застанецца. Але, калі перабудова ВНУ сапраўды будзе ісці ўглыб і ўшыр, то затрымаецца яна, будзем спадзявацца, нядоўга...

**— Ці змянілася што на філфаку з прыняццем Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы і Закона аб культуры? У першую чаргу я маю на ўвазе ўмовы працы.**

— На мой погляд, пакуль што ў сувязі з прыняццем названых Вамі законаў на філфаку нічога не змянілася — асабліва ва ўмовах працы. Галоўнае, што ў той сітуацыі, якая склалася на сёння ў рэспубліцы, гэтыя законы не адмянілі няпісаных законаў другаснасці беларускай мовы, другаснасці гуманітарнай сферы. Мы працягваем заставацца на астаткавым прынцыпе дзяржаўнага забеспячэння. Было ў бюджэце **0,8% на культуру, стала** — 3%, але калі па вартасці грошай браць, то за гэтыя 3% ва ўмовах суперінфляцыі — ці зробіш яшчэ тое, што рабілася за 0,8%?!

Умовы працы?! Дзякуй «Народнай газеце», што апублікавала адкрыты ліст выкладчыкаў філфака ў ЦК КПБ. Яшчэ адказу на яго не маем, але папрокі з боку некаторых народных дэпутатаў-камуністаў з трыбуны Вярхоўнага Савета БССР у наш адрас прагучалі. Калі гаварыць у працяг ліста, то не прыўлашчвання маёмасці мы дабіваемся, а спаўнення абяцанага. Як пафасна ў свой час гучалі лозунгі: «Даў слова, стрымай яго!..», «Не словам, а справай пацвердзім!» А ведаеце, што было б, каб словы ў нас пацвярджаліся справай? Я — універсітэтчык з 1948 года. Не магу далічыцца, колькі за гэты час разоў у Пастановах ЦК КПБ запісваліся словы то аб перадачы універсітэту гмаху Дома ўрада, то аб пабудове новых асобных комплесаў. Ды каб проста хоць раз было стрымана слова, універсітэт, філфак не былі б у такіх жахлівых умовах існавання, у якіх яны знаходзяцца.

Увогуле на нейкім этапе хадзілі чуткі аб перадачы універсітэту гмаху КДБ. На што замахваецеся? — спытаецеся. А які ж гэта замах? Калі і замах, то толькі на тое, каб сапраўды універсітэт быў у цэнтры сталіцы ды ў самым прыгожым будынку. Цанава пачынаў будаўніцтва не з універсітэта! Па ўсёй Еўропе ў цэнтры сталіц — Берліна, Парыжа, Прагі, Кракава — універсітэты, а ў беларусаў?

Ды калі ж наша грамадства пазбудзецца гэтага?!.

Вы пыталіся яшчэ аб «вяртанні філфаку яго сапраўднага накірунку — выхаванні беларускай інтэлігенцыі». Філфак таму дапаможа, але ў адзіночку мала што зробіць. Грамадства, усе палітычныя сілы рэспублікі павінны прыняць як сваю галоўную ідэю — ідэю Адраджэння, клопат пра духоўнае яднанне народа Беларусі. Сталінскую фармуліроўку «За культуру, сацыялістычную па зместу, нацыянальную па форме» мы даўно не ўспамінаем. А варта, каб перакрэсліць усю яе знішчальную сілу, калі нацыянальнае было толькі фармальным. Ідэалогія камуністаў Беларусі не зменіцца ад таго, калі статут КПСС будзе перакладзены на беларускую мову, калі партыйнае справаводства пяройдзе на беларускую мову.

Наогул на пазіцыі нацыянальных задач павінны перайсці ўсе палітычныя сілы Беларусі, каб сапраўды служыць яе рэальнаму — палітычнаму, эканамічнаму, культурнаму Адраджэнню. Камуністы універсітэта на адным з нядаўніх сваіх сходаў ужо гаварылі аб неабходнасці склікання Усебеларускага кангрэсу палітычных сіл Беларусі — дзеля дыялогу дзеля прыйсця да нацыянальнай згоды, каб не ўмерці. Толькі ў атмасферы спрыяння ўсіх палітычных сіл рэспублікі справе нацыянальнай культуры і наш філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта зможа найбольш паспяхова здзяйсняць свае задачы па выхоўванню новых пакаленняў адданых Айчыне маладых інтэлігентаў і стаць адным з цэнтраў беларускай і ўвогуле славянскай філалогіі, адным з непаўторных цэнтраў філалогіі як дачкі гуманізму.

Распытваў
Віктар **ШНІП.**

*Па слядах публікацыі*

# ХТО ПРА ШТО ДБАЕ

***У 10-м нумары «Нашага слова» за 1991 год быў надрукаваны артыкул С. Чыгрына «Каму патрэбна рэзервацыя?», на які адрэагавала Міністэрства народнай адукацыі і даслала ў рэдакцыю газеты афіцыйнае пісьмо. Знаёмім з ім чытачоў, а таксама змяшчаем на яго водгук С. Чыгрына і наш каментарый.***

## У рэдакцыю «Нашага слова»

На Ваш ліст адносна артыкула Сяргея Чыгрына «Каму патрэбна рэзервацыя?», надрукаваны ў газеце «Наша слова» за 24 красавіка 1991 г., паведамляем наступнае. Факты пададзены тэндэнцыйна і іх падача носіць суб'ектыўны характар.

На сустрэчы з членамі літаратурнага аб'яднання вялася размова аб новай школе № 8, але ніхто не даваў абяцання, што яна будзе беларускамоўнай, паколькі фарміравалася з вучнёўскіх калектываў дзвюх школ, і была запланавана і адчынена як школа з музычна-харавым ухілам.

Удзельнікі вышэйадзначанай сустрэчы схіляліся да таго, што мэтазгодна не адну школу перавесці на беларускую мову навучання, а шляхам адкрыцця беларускіх класаў (маюцца на ўвазе першыя класы) пераважную большасць школ паступова пераўтварыць у беларускамоўныя.

Зрабіць гэта ўжо ў 1990/91 навучальным годзе не ўдалося па прычыне недастатковай колькасці падручнікаў, дапаможнікаў, дыдактычнага матэрыялу.

З 1 верасня 1991 г. аддзел народнай адукацыі сумесна з выканкомам гарадскога савета плануюць перавесці на беларускую мову навучання ўсе першыя класы сярэдніх школ №№ 1, 2, 3, 4, 7, 10; з 1 верасня 1992 г. сярэднюю школу № 8. СШ № 5 застаецца рускамоўнай, паколькі там навучаюцца ў асноўным дзеці вайскоўцаў, але ўсе вучні гэтай школы вывучаюць беларускую мову і літаратуру ў абавязковым парадку, СШ № 6 з'яўляецца спецыялізаванай школай з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы, і, як толькі яна будзе забяспечана дастатковай колькасцю слоўнікаў, падручнікаў, наглядных дапаможнікаў, яна стане беларускамоўнай.

Нельга пагадзіцца і з тым, што ў г. Слоніме абыякавае стаўленне да справы нацыянальнага адраджэння. Робіцца якраз нямала. У прыватнасці, распрацавана і рэалізуецца праграма «Родная мова».

Сам жа С. Чыгрын адвёў сваю дачку ў першы клас з рускай мовай навучання.

З павагай начальнік Галоўнага ўпраўлення сярэдняй адукацыі Г. М. **ПЯТРОЎСКІ.**

## У верасні пабачым

Пасля апублікавання майго матэрыялу, які ў Слоніме выклікаў вялікі перапалох сярод работнікаў гарадскога аддзела народнай адукацыі, была ў нас сустрэча літаратурнага аб'яднання з супрацоўнікамі гарвыканкома. Прысутнічалі загадчык гарана А. М. Лакцюшын і загадчыца райана Г. І. Шмялёва (абое, дарэчы, рускія). Зачытваўся мой ліст, ішло абмеркаванне (на маю карысць). Нядаўна ў Слоніме адбылося чарговае пасяджэнне выканкома гарадскога Савета народных дэпутатаў, дзе вырашалася пытанне развіцця беларускай мовы. Матэрыял аб пасяджэнні надрукаваны ў раённай газеце «Слонімскі веснік» за 2 ліпеня 1991 г. Дзіўна, што змест гэтага матэрыялу сугучны са зместам афіцыйнага пісьма Міністэрства народнай адукацыі, дасланага ў рэдакцыю газеты «Наша слова». Відаць, пасяджэнне гарсавета было звязана з маёй публікацыяй. Добра.

Калі нешта вырашыцца ў школах і садках Слоніма ў станоўчы бок, будзе поспех. Бо і ў мінулым годзе шмат чаго нам абяцалі (пра гэта я і пісаў якраз у артыкуле «Каму патрэбна рэзервацыя?»). Адным словам, у верасні пабачым.

А што да СШ № 8, дык як магу я аддаць туды сваю дачку ў беларускі клас, калі яго там няма і першага верасня таксама не будзе. Школа знаходзіцца побач з маім домам, таму дачка, на жаль, ідзе ў рускі клас.

З павагаю
Сяргей **ЧЫГРЫН.**

## Паіранізаваў начальнік сам з сябе

Шчыра кажучы, вельмі здзіўляе клопат некаторых высокапастаўленых асоб Міністэрства народнай адукацыі БССР аб абароне свайго «мундзіра» (няхай даруе нам чытач за банальны выраз). І гэта пасля таго, як ужо разгледжаны ў першым чытанні на сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі Закон аб адукацыі ў БССР.

А мо лепш было б начальніку рэспубліканскага Галоўнага ўпраўлення сярэдняй адукацыі Г. М. Пятроўскаму раздзяліць клопат Сяргея Чыгрына ды спытацца як след у слонімскіх улад, чаму імі дрэнна выконваецца адзін з найважнейшых дзяржаўных законаў — Закон аб мовах у БССР?

«Факты пададзены тэндэнцыйна і іх падача носіць суб'ектыўны характар» — адказвае нам гэты міністэрскі начальнік (стыль і пунктуацыю яго пісьма мы захоўваем). Але чаму трэба верыць толькі яму? Выходзіць, акрамя С. Чыгрына, скажалі карціну выкладання роднай мовы ў школах Слоніма Алена Руцкая — настаўніца і пісьменніца, — выступаючы на пасяджэнні Рэспубліканскай Рады ТБМ 29 сакавіка 1991 года, а таксама сябра Слонімскай гарадской рады ТБМ Р. Генюш, які браў слова на II з'ездзе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (гл. «Наша слова», № 19, 1991, с. 5)?

Шырацца апошнім часам нараканні Міністэртсва народнай адукацыі, а разам з ім і Дзяржкамдруку БССР на недастатковую колькасць беларускіх падручнікаў, адсутнасць для іх добрай паперы. Але паглядзіце: на вельмі добрай паперы з'яўляюцца, як грыбы пасля цёплага дажджу, рускамоўныя выданні — часам мала каму патрэбныя, амаль што парнаграфічнага зместу. Няўжо можна мірыцца з тым, што з-за нажывы пэўнай катэгорыі людзей мы не можам забяспечыць нават школу патрэбнай літаратурай? Вось і Г. М. Пятроўскі аргументуе адсутнасць беларускамоўных класаў у школах Слоніма «недастатковай колькасцю» падручнікаў на беларускай мове. Хіба што Сяргею Чыгрыну прыййдзецца забяспечыць дзесяць школ горада гэтымі падручнікамі.

І як зразумець іронію Г. М. Пятроўскага наконт таго, што С. Чыгрын адвёў сваю дачку ў першы клас з рускай мовай навучання? А якое іншае выйсце заставалася ў бацькі, калі ў той школе, у якой павінна вучыцца дачка (самай блізкай ад дому), адсутнічаюць беларускамоўныя класы? Выходзіць — паіранізаваў начальнік рэспубліканскага Галоўнага ўпраўлення сярэдняй адукацыі сам з сябе.

*Чыталі?*

# ГОЛАС «СВІТАНКАЎЦАЎ»

Наўрад ці чыталі, бо, каб набыць гэтую кніжку, у лепшым выпадку неабходна наведацца ў Паставы. Там яна выпушчана сябрамі мясцовага літаратурнага аб'яднання «Світанак», якое працуе пры рэдакцыі раённай газеты «Пастаўскі край». На ўласныя сродкі. Самімі ж аўтарамі распаўсюджваецца, бо дзе тыя лішнія грошы знойдзеш, каб аплаціць паслугі кнігагандлёвых работнікаў. Балазе што неяк «наскрэблі» на само выданне, і то кошт зборніка «пацягнуў» ажно на тры рублі. Але хіба тры рублі ў наш час грошы? Хіба можна падводзіць паэзію пад матэрыяльную аснову?

У паэтычным жа альманаху «Рунь» — паэзія. 17 чалавек, кожны па-свойму, апявае родны Пастаўскі край, чысціню чалавечых узаемаадносін, задумваецца над няпростымі працэсамі нацыянальнага Адраджэння, вяртання народу яго мовы.

Ды і ў кожнага з паэтаў — свой лёс. Зінаіда Шыман, Аркадзь Нафрановіч, Ніна Захарэвіч — па адукацыі педагогі. Яўстафій Абрамовіч — адзін са старэйшых аўтараў і самога «Світанка», і «Руні» працуе ў роднай вёсцы Соўкі будаўніком. Таццяна Гінько, хоць і маладая, не прывабілася горадам, таксама засталася на вёсцы, палюбіла прафесію даяркі. Іосіф жа Атрахімовіч — мастак. Здавалася б, зусім не паэтычная прафесія ў Валянціны Жоравай — кантралёр у аўтапарку, але паэзію яна любіць. І вершы ў яе хоць і простыя, а сардэчнапрачулыя.

Даведаўшыся, што Леанід Трубач працуе ў райкоме партыі, сёй-той гатовы гэтак грэбліва заначыць: «Яшчэ адзін партыйны наменклатуршчык знайшоўся». А гэты «кансерватар» неблагія вершы піша, пры тым абжывае і складаныя літаратурныя формы. Скажам, з-пад яго пяра такі «Акраверш» з'явіўся:

Сярпасты месяц зноўку жне
Высокі колас спелых зорак.
Якой дарогай крочыш? Дзе
Тваіх вачэй блакітны золак?
Ласкавы дотык лёгкіх рук
Абудзіць радасць пры сустрэчы,
Нібы накцюрна першы гук...
А мы ўдваіх. Спыніся, вечар!

Вялікай падборкай прадстаўлены ў «Руні» Алесь Касцень, імя якога добра знаёма і рэспубліканскаму чытачу. Адным з першых яго заўважыў у свой час «ЛіМ» — тады Алесь служыў у арміі. Пасталеў голас аўтара. Поруч з лірычнымі больш узмоцненымі сталі і публіцыстычныя матывы. У гэтым пераконваюць вершы «Пацыфіст», «Кулі», «Мне сніцца стаў начамі кулямёт...» Адначасова паэт задумваецца над вечнасцю сусвету і імгненнем чалавечага жыцця, вяртаецца да вытокаў, як у вершы «Садзім бульбу».

Ёсць у кніжцы і некалькі аўтараў, якія пішуць па-руску. Паэту цяжэй, чым празаіку, калі пераходзіць з мовы на мову. І ўсё ж — рунь ёсць рунь. Беларуская, а не руская. Слова мілагучнае, слова наскае... А мо паспрабаваць пісаць і па-свойму? Глядзіш і атрымаецца.

Пасля дружнай руні звычайна кусціцца збажына. Хацелася б, каб і ў сяброў «Світанка» былі наступныя кніжкі. Ініцыятыва заслугоўвае падтрымкі. Ды і для іншых рэдакцый — вопыт, варты пераймання. Дарэчы, пачатак «кнігавыдання» ў глыбінцы ідзе з дваццатых гадоў, калі гэтай справай займаліся ў асноўным маладнякоўцы.

Дык хто цяпер наступны?! Узденцы, слуцакі, капыляне?

Алесь **МАРЦІНОВІЧ.**

*Сочым за падзеяй*

# З АСТРОГА – У ШПІТАЛЬ

**15 ліпеня, у панядзелак, Валерыя Сядова вызвалілі з турмы. У той самы дзень яго паклалі ў шпіталь.**
**Мы звярнуліся з пытаннямі да яго жонкі і адваката. На жаль, у мінулым нумары па віне супрацоўніка рэдакцыі дапушчана памылка ў прозвішчы адваката Валерыя Сядова. Рэдакцыя просіць прабачэння ў паважанай спадарыні Надзеі Дударавай і ў чытачоў.**

### *Надзея Дударава, адвакат Валерыя Сядова:* СПРАВА НЕ ЗАКРЫТА

— У панядзелак Валерыя Сядова вызвалілі з-пад аховы і прывезлі дахаты. Але пабыў ён дома нядоўга. Пасля галадоўкі, якую, змагаючыся за свае законныя правы, аб'явіў у ізалятары, ён пачуваўся вельмі блага. Яму была патрэбная медыцынская дапамога. У гэты ж дзень яго паклалі ў адну з гарадскіх лякарань. У аўторак я наведала яго. Урачы дазволілі спатканне на 2—3 хвіліны. Валерый ляжаў пад капельніцаю. Яго нельга было хваляваць, і мы размаўлялі на тэмы, не звязаныя з ягонай справай.

Абурае тое, што следчыя органы, каб закрыць справу, перад знясіленым пасля працяглай галадоўкі чалавекам паставілі ўмову: калі закрыеш справу — адпусцім. Падпісваецца дакумент аб закрыцці справы зазвычай у прысутнасці адваката. Следчы пайшоў на парушэнне закона, не запрасіўшы мяне на гэтую працэдуру. Хаця яны і прымусілі Сядова закрыць справу, я свой подпіс у дакуменце не паставіла. Як адвакат і як чалавек я гэтага зрабіць не магу.

### *Ірына, жонка Валерыя Сядова:* ДАКТАРЫ КАЖУЦЬ, СПРАВА ІДЗЕ НА ПОПРАЎКУ

— Валерыя адвезлі ў шпіталь на «хуткай дапамозе». Першым часам у лякарні ён бадзёрыўся, хаця аналізы ў яго былі благія. Дактары кажуць, што справа ідзе на папраўку. Мужу трэба прайсці дваццацідзённы курс лячэння. Хаця, калі ўсё будзе добра, яго могуць выпісаць і раней.

## Свята песні

У будучым годзе будзе адзначана стагоддзе з дня нараджэння славутага дзеяча беларускай нацыянальнай культуры, фальклярыста Рыгора Раманавіча Шырмы. І добрую справу зрабілі Міністэрства культуры нашай рэспублікі і Гродзенскае вучылішча культуры, якія правялі ў горадзе над Нёманам рэспубліканскі фестываль харавой музыкі. Прысвечана была гэтая падзея якраз юбілею Р. Р. Шырмы.

У Гродна прыехала шмат гасцей з Мінска, Гомеля, Віцебска, Смаленска, Пскова, Ленінграда і многіх іншых гарадоў краіны. У фестывальнай праграме гучалі песні і рускія, і ўкраінскія, і сучасных кампазітараў, але перавага аддавалася ўсё ж такі беларускім народным песням.

Як адзначыў, закрываючы фестываль, старшыня журы, народны артыст Беларусі Міхась Дрынеўскі,— «гэта было свята маладосці і хараства, свята песні». Ён назваў лаўрэатаў. Сярод акадэмічных хароў лепшым прызнаны хор Мінскага вучылішча культуры і мастацтваў. А вось сярод народных хароў вызначыўся творчы калектыў Гродзенскага вучылішча імя Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Не засталіся без памятных прызоў і госці, удзельнікі хора беларускай песні «Васілёчкі» з горада Бельск-Падляскі Польскай Рэспублікі.

Кіраўнік «Васілёчкаў» Сяргей Лукашук лічыць, што фестываль удаўся. Ён з вялікай пашанай адносіцца да творчай спадчыны Рыгора Шырмы, актыўна ўключае ў рэпертуар свайго калектыву песні са зборнікаў славутага фальклярыста. Сяргей шкадуе, што ў Польшчы конкурсы беларускага харавога мастацтва не праводзяцца.

Дададзім, што і ў нас у рэспубліцы яны бываюць не вельмі часта. І застаецца толькі шчыра падзякаваць арганізатараў фестывалю ў Гродне і пажадаць добрага працягу...

М. ДУБРАВІН.
г. Гродна.

*Слоўцы, якія паслужаць*

# Пра «нешта» и «нештачка»

(Працяг. Пачатак гл. у №№ 10 (1990), 4 (1991)

— Ой, дзядзька... Нямашака ў вас ножыка? Згубіла затылак, каса і распрэглася... Мо каб хоць з якое дзеравякі выстругаць... Сонца яшчэ высока, травы можна колькі палажыць.

— Драўляны — не тое, што з рога. Трэбуло ў пакошы пашворыць добра ці пад валком.

— Шукала, няго ж не! Як чэрці ўхапілі.

— Ой, Мар'я... Як ты косіш — не касаўё, а кій сукаваты. І лучок не туды служыць, паязджае.

— Якая мая доля ўдовіная, такое і ўсё.

— Вой, Фёдар Міхайлавіч... Я ўспамінаю вас такімі добрымі словамі — мо й на свеце такіх слоў няма!

— Сынок, накажы гэтаму бушыле, каб слухаўся. А не дык і не астаўляй тут, вязі назад у горад. Як чэрці яго падтыкаюць, летась чуць вантробы мне не пераеў. Такую адволіцу пачуў!

— Віця, чаго насупіўся як мыш на крупы? Чуеш, што баба кажа?

— Чую. Скажы, у мяне канікулы ці не? А баба хоча царскі прыжым устроіць, ні вохні, ні зварухніся...

— Збожжавенькая? О-о, гэта табе не просты самагнёт, на талерках чысцілася, на вугалі. А то яшчэ бульбяначка ёсць, каньяк «Тры бульбачкі», цукровачка, слівовіца...

— І як яны збіраюцца жыць? Такі вецер у галаве... І не ўмеюць нічагусенькі рабіць!

— Не тужы... Як укусіць свая вош, такія растаропы паробяцца.

— У вас палёгліца кажуць? А ў нас палёгвіца... Або во яшчэ пішуць: п'е нагбом, нагбом... Каб нагном — зразумела было б, а то...

— А ў вас як?
— Нагінкам!

— Добры стальмах быў... Два пакаты калёс справіў. І на драўляным ходзе мог рабіць, і на жалезным — які хто закажа.

— На драўляным ходзе і я памятаю яшчэ. Шмары не набрацца, сюд-туд і вішчаць колы, як парасяты.

— Вы старшыню хацелі? Сённека не нойдзеце яго... Доднідаю ў поле пайграў. Рупесак адолеў, мулікі спаць не давалі... Вясна!

Бабка, заглянуўшы ў пялюшкі ўнучка:

— Ай-яй-яй, колькі ўсяго тут — і вадзенькага, і гусценькага...

— Такая гарачка падхапілася... Мо якая агнёва ўкінулася? Палае ўвесь, а яго трасе як ліхаманка.

— Мо проймаю прахапіла, такая халадоўля ў хаце.

— Як ты думаеш, ведаюць нашы праўшчыкі ў выдавецтвах мову?

— Гм...

— Во, і я тое кажу. У рукапісе бабка гукае ўнука: «Бяжы скоранька, нештачка дам!» Рэдактар правіць: «Бяжы хуценька, нешта дам!» Я ўжо не кажу пра абсалютны, як у музыканта, слых, але ж звычайны добры слых у яго павінен быць? Не ўлоўлівае, не чуе розніцы, нюансу ў значэнні слоў.

Павел
МІСЬКО.

# Беларуская мова ў свеце

Пачынаючы з 60-х гадоў беларусістыка паспяхова развіваецца ва ўсім свеце. Створаны курсы па вывучэнню беларускай мовы, гісторыі, літаратуры ў многіх універсітэтах на Захадзе. Нам адказваюць: Аляксандр Баршчэўскі — загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Карл Гутшміт — прафесар Берлінскага універсітэта, Вацлаў Жыдліцкі — прафесар Карлава універсітэта, Джым Дзінглі — дацэнт рускай мовы кафедры славяназнаўства пры Лонданскім універсітэце.

**Кар.: Як вывучаецца беларуская мова, гісторыя, літаратура ў заходніх універсітэтах? Якія Вашы планы на будучыню?**

АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ (Польшча): У Варшаўскім універсітэце створана кафедра беларускай філалогіі. Не так даўно яна была адзінай такога тыпу пляцоўкай не толькі ў Польшчы, але і ва ўсім свеце, таму што нідзе не было беларускай філалогіі па-за межамі Савецкай Беларусі. Але ўжо апошні час у Польшчы існуе так званы пашыраны лектарат, пашыранае вывучэнне беларускай мовы ў Кракаўскім універсітэце. А ў каталіцкім Люблінскім універсітэце адкрыта кафедра беларускай філалогіі, такая, як і наша. У Польшчы ўжо ёсць 4 універсітэты, дзе існуюць, калі не поўныя кафедры беларускай філалогіі, то пашыранае навучанне беларускай мове.

У Варшаўскім універсітэце на працягу некалькіх год выкладаецца граматыка беларускае мовы, старацаркоўнаславянская мова, гісторыя беларускай літаратуры, гісторыя Беларусі і методыка навучання беларускай мове. Нашыя студэнты ўсіх курсаў вывучаюць беларускую мову ў тых ці іншых формах, пачынаючы ад першых заняткаў у нас і канчаючы экзаменам.

КАРЛ ГУТШМІТ (Германія): У 1967 годзе ў Берлінскім універсітэце імя Гумбальта адкрыўся факультатыў па вывучэнню беларускай мовы. Там займалася ад 5 да 8 студэнтаў. Я вёў практычныя заняткі па вывучэнню беларускай мовы. Потым чытаў курс сучаснай беларускай мовы, курс гісторыі беларускай мовы і літаратуры. Цяпер курсы па вывучэнню беларускай мовы працягваюць існаваць у нашым універсітэце. Там займаецца 5 студэнтаў. Акрамя мяне, працуе Соня Хайль, доктар філалогіі. Яна была на стажыроўцы ў Мінску і цяпер піша працу пра развіццё сінтаксісу беларускай мовы ў пачатку нашага стагоддзя. Студэнты, пачынаючы з любога курса могуць вывучаць беларускую мову. Гэта залежыць ад іх інтарэсаў. У канцы курса студэнты здаюць залік, і гэта ўносіцца ў пасведчанне. Былі абаронены тры дыпломныя працы. Першая з іх пра беларускага пісьменніка Вячаслава Адамчыка ў канцы 60-х гадоў. Студэнтка зрабіла вельмі цікавую працу. Калі гаварыць на перспектыву, то мы будзем працягваць нашу работу ў гэтай галіне і спадзяёмся, што да нас прыйдуць студэнты другога Берлінскага універсітэта, які быў створаны ў Заходнім Берліне. Там таксама ёсць аддзяленне славістыкі, але беларускую мову не вывучаюць. Таму студэнты наведваюць нашу кафедру. Мы ўжо дамовіліся з калегамі, што беларусістыка будзе развівацца ў нас, ва універсітэце імя Гумбальта.

ВАЦЛАЎ ЖЫДЛІЦКІ (Чэха-Славакія): Беларусістыка заснавана ў Карлавым універсітэце ў Празе ў 1959 годзе на кафедры русістыкі. Было створана тры аддзяленні: рускай мовы, беларускай і ўкраінскай. На працягу гэтых гадоў мы вывучаем беларускую мову і беларускую літаратуру і, вядома ж, беларускую гісторыю. Гэты курс разлічаны на пяць гадоў. Студэнты пішуць таксама і дыпломныя працы. Нядаўна адна студэнтка абараніла дыпломную працу пра Івана Пташнікава. Калі гаварыць пра перспектывы для развіцця беларусістыкі ў Чэха-Славакіі, то гэта залежыць цалкам ад развіцця яе на Бацькаўшчыне.

ДЖЫМ ДЗІНГЛІ (Англія): Мы з калегам прафесарам Арнольдам Макмілінам займаемся цяпер падрыхтоўкай курсаў па сучаснай беларускай мове, гісторыі беларускай мовы, па гісторыі беларускай літаратуры, па гісторыі Беларусі. Гэтыя курсы павінны пачацца ў кастрычніку. Але ў нас не было часу, каб зрабіць рэкламу, таму, думаем, першы год будзе няшмат студэнтаў. Курсы разлічаны на аспірантаў. Платныя. Год навучання ў аспірантуры ў нашым універсітэце каштуе 4 тыс. фунтаў. Калі будзе шмат слухачоў, то будуць чытацца лекцыі і перыядычна праводзіцца семінарскія заняткі. Але гэта яшчэ канчаткова не вырашана. Праграма курсаў разлічана на адзін год. Я б хацеў, каб такія аспіранцкія курсы выраслі ў доктарскія працы ў галіне беларусазнаўства. Рана яшчэ пра гэта гаварыць, але планы ёсць.

Гутарыла Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

## АШУКАЛІ І МЯНЕ

Ашукалі і мяне друкары. Бо, зірнуўшы на загаловак «Рэспублікі», і я набыў гэтую газету. А калі разгарнуў, то ўбачыў, што амаль усе матэрыялы на рускай мове.

І яшчэ: першага ліпеня насупраць ЦУМа стаяў аўтобус з прыемным для вока надпісам: «Белкніга». Я абрадаваўся магчымасці набыць беларускую кнігу. Аднак ніводнай кніжкі на беларускай мове там не знайшлося.

— Што ж вы,— сказаў я,— уводзіце ў зман пакупнікоў — шыльда беларуская, а кнігі ўсе рускія? Прадаўшчыца, доўга не думаючы, выкрыкнула: «Мы продаём книги белорусских издательств!»

Ды якія гэта выдавецтвы могуць сябе называць беларускімі, калі яны выдаюць кнігі на рускай мове? Ды гэта ж здзек з нашага сумленнага народа! Не дзіва, што і ў Вярхоўным Савеце на сесіі, калі гутарка ідзе аб уратаванні беларускай нацыі, рагочуць бюракраты.

Уладзімір ГАРДЗЕЙКА,
г. Мінск.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Рэдактар Эрнэст Ялугін
Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека (нам. рэдактара), Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.
Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.174 паасобнікаў. Заказ 2452. Індэкс 74975.